Тэлепраграма з 4 па 10 верасня

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**№ 69 (4218)**

1 верасня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## 3 верасня – Дзень беларускага пісьменства






У нядзелю 3 верасня ў старажытным горадзе Полацку, асвечаным імёнамі слынных сыноў і дачок Беларусі – Рагнеды, Еўфрасінні, Сімяона Полацкага, Францыска Скарыны, – адбудуцца ўрачыстасці, прысвечаныя Дню беларускага пісьменства. Сёлета яны пройдуць пад знакам 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Адначасова Полацк адзначае 1155-годдзе з дня заснавання.

Сярод удзельнікаў свята – вядомы паэт Анатоль Зэкаў. Вядома ж, ён вітае свята, але ж, на яго погляд, яно ўсё ж з гарчынкай. І вось чаму…

Анатоль ЗЭКАЎ

### У Полацку

*За векам век ідзе-мінае,*
*наўсцяж ва ўсіх жыццё вірыць.*
*А Полацк мову забывае,*
*якой Скарына гаварыў.*

*Калі б прыйшоў у горад сёння,*
*праз пяць вякоў, першадрукар,*
*ён быў бы тут як у палоне*
*у мовы рускай.*

*Колькі мар*
*ягоных так і не збылося,*
*хоць набылі і незалежнасць.*
*Прыйшоў бы ён, ды хто запросіць*
*і словам родным хто суцешыць –*

*тым самым словам, што з маленства*
*ён па жыцці нёс, як святое?*
*Бадай, што толькі ў Дзень пісьменства*
*тут і пачуеш слова тое.*

**ЗША: СТЫХІЯ**





**Страшэнная паводка накрыла амерыканскі штат Тэхас. Яна ўнесла жыцці 30 чалавек, больш за 30 тысяч чалавек былі вымушаны пакінуць свае дамы.**

## У школу!



Ілюстрацыйнае фота

110 тысяч першакласнікаў сядуць у Беларусі за парты ў новым навучальным годзе.
Усяго 1 верасня заняткі ў школах і гімназіях пачнуцца для амаль мільёна вучняў.

**ДИПКУРЬЕР**

## Дмитрий Мирончик ответил Елене Зеркаль

28 августа стало известно о пропаже 19-летнего украинца Павла Гриба. Он поехал в Гомель на встречу с россиянкой, с которой познакомился в интернете. Отец юноши Игорь Гриб также отправился в Гомель, но чтобы выяснить местонахождение сына. Там ему неофициально сообщили, что Павел находится в розыске по ст.205 УК РФ (Террористический акт) по запросу ФСБ Краснодарского края.

Черниговская прокуратура 29 августа сообщила о возбуждении уголовного дела по факту исчезновения Павла Гриба. Предполагаемая девушка, с которой пропавший Павел встречался в Гомеле, в интервью белорусским журналистам призналась, что встреча прошла по инициативе ФСБ России.

30 августа на украинском телевидении замглавы МИД Украины **Елена Зеркаль** заявила, что Беларусь только на словах ведет себя как партнер, а на деле «действует совсем иначе».

Как говорится, сказано не совсем дипломатично. А поэтому 31 августа украинского дипломата **Валерия Джигуна** вызвали в МИД Беларуси, чтобы довести *«бесперспективность угроз и неприемлемость высказываний»*. Также вчера пресс-служба МИД нашей страны распространила ответ пресс-секретаря ведомства **Дмитрия Мирончика** на заявление Зеркаль.

*– Генеральная прокуратура, Министерство внутренних дел, Следственный комитет, Комитет государственной безопасности, Пограничный комитет на всей территории нашей страны ведут поиск украинского гражданина Павла Гриба. Собранная информация обобщается и готовится для передачи украинской стороне.*

*Люди, к сожалению, пропадают по самым разным причинам – и по собственной воле или глупости, и в результате злонамеренных действий третьих сил. Если за 19-летним молодым человеком не уследили его родители и власти собственной страны, то это еще не повод валить с больной головы на здоровую. Точно не по-партнерски через сутки после официальной просьбы о помощи обвинять в чем-либо страну, которая без ее ведома была выбрана местом не то романтического свидания, не то конспиративной встречи.*

*Тем более неуместно, пользуясь делом П.Гриба как поводом, публично угрожать Беларуси, а через Беларусь еще и ее партнерам по ЕАЭС – Армении, Казахстану, Кыргызстану и России – «навязать свои интересы» в экономической сфере.*

*Совсем недавно на высшем уровне с удовлетворением было заявлено о снятии барьеров в двусторонней торговле. Ущерб, нанесенный ими, был обоюдным, от ограничений не выиграл никто. Жаль, что этот урок не был усвоен нашими украинскими партнерами.*

**ЗАКЛІК**

## 30 жніўня міжнародная супольнасць адзначыла Дзень ахвяр гвалтоўных зніккненняў

*З гэтай нагоды пасол Вялікабрытаніі Фіёна Гіб заклікала ўлады Беларусі расследаваць гучныя палітычныя зніккненні 1999–2000 гадоў.*

Яна запісала відэазварот да нашага ўрада з заклікам завяршыць расследаванне знікненняў **Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага.**

Як адзначае пасол Вялікабрытаніі, Беларусь з'яўляецца адной з краін, дзе, на думку ААН, былі выпадкі гвалтоўных знікненняў. «*У прыватнасці, гаворка ідзе пра знікненні чатырох палітычных актывістаў у 1999-м і 2000 гадах: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага. Гэтыя справы застаюцца нераскрытымі па сённяшні дзень. Іх сем'і не знойдуць заспакаення, пакуль пра іх лёс не стане вядома, а вінаватыя не будуць пакараны*», – падкрэслівае Фіёна Гіб.

«*Я заклікаю ўрад Беларусі супрацоўнічаць з Рабочай групай ААН па гвалтоўных або нядобраахвотных знікненнях для вырашэння гэтай сітуацыі, якая доўжыцца ўжо працяглы час і негатыўна адбіваецца на міжнароднай рэпутацыі Беларусі*», – гаворыцца ў відэазвароце, які пасол Вялікабрытаніі размясціла ў сваім блогу.

7 мая 1999 года пры нявысветленых абставінах у цэнтры Мінска знік генерал Юрый Захаранка. Сышоўшы ў апазіцыю, у 1998 годзе ён узначаліў камітэт па бяспецы «ценявога» ўрада. Вясной 1999 года актыўна ўдзельнічаў у арганізаванай апазіцыяй кампаніі па выбарах прэзідэнта. Увайшоў у каманду экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра, ездзіў па краіне, арганізоўваў групы па зборы подпісаў.

16 верасня гэтага ж года бясследна зніклі апазіцыйны палітык Віктар Ганчар і бізнесмен Анатоль Красоўскі. Прадстаўнікі апазіцыі, родныя зніклых і міжнародная грамадскасць лічаць, што яны былі выкрадзены па палітычных матывах.

У 2000 годзе ў Беларусі бясследна знік тэлеаператар Дзмітрый Завадскі. Раніцай 7 ліпеня Завадскі выехаў з дома ў Нацыянальны аэрапорт Мінск. З тых часоў яго ніхто не бачыў. Аўтамабіль быў знойдзены ў аэрапорце.

У 2002 годзе Мінскі абласны суд прызнаў вінаватай у выкраданні Завадскага групу былога байца спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча. Два ўдзельнікі гэтай групы, у тым ліку сам Ігнатовіч, асуджаны на пажыццёвае зняволенне.

У сакавіку 2004 года рэспубліканская пракуратура прыпыніла расследаванне справы аб выкраданні Завадскага «ў сувязі з неадшуканнем без вестак зніклай асобы». У 2005 годзе расследаванне было адноўлена, але ў красавіку 2006-га – зноў прыпынена.

**Аляксей АРЭШКА.**

(БелаПАН.)

## Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый ЗАХАРАНКА**
знік 6690 дзён таму



**Віктар ГАНЧАР**
знік 6558 дзён таму



**Анатоль КРАСОЎСКІ**
знік 6558 дзён таму



**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**
знік 6263 дні таму

Народная Воля http://www.nv-online.info 1 ВЕРАСНЯ 2017 г.

ЧУЛІ?

# Андрэй Дамарацкі трапіў пад скарачэнне

1 верасня ў Мінгарвыканкаме скарачаецца пасада аднаго з пяці намеснікаў старшыні сталічнай адміністрацыі, якую займаў Андрэй Дамарацкі.

Дамарацкі займаўся каардынацыяй працы па арганізацыі харчовай бяспекі горада, пытаннямі рэканструкцыі прадпрыемстваў харчовай і перапрацоўчай прамысловасці, аказання дапамогі сельгасвытворцам, прадпрымальніцтва. У сферы яго дзейнасці былі таксама пытанні арганізацыі працы і развіцця галіны гандлёвых і бытавых паслуг, гасцінічнага комплексу горада, арганізацыі і правядзення гарадскіх кірмашоў, прыватызацыі і кіравання дзяржаўнай маёмасцю, прадпрымальніцтва і інвестыцый, кантролю і каардынацыі працы па эфектыўным выкарыстанні бюджэтных сродкаў і іншыя.

Чыноўнік кіраваў дзейнасцю ўпраўлення гандлю і паслуг, дзяржустановы «Галоўнае ўпраўленне спажывецкага рынку Мінгарвыканкама», дзяржустановы «Упраўленне бытавога і гасцінічнага абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкама», а таксама шэрагам камунальных прадпрыемстваў сталіцы ў сферы гандлю, харчовай прамысловасці, гасцінічнага бізнесу, нерухомасці.

Як паведамілі ў сталічнай адміністрацыі, гэтыя функцыі перадаюцца намесніку старшыні Аляксандру Крапаку, які курыруе агульную стратэгію сацыяльна-эканамічнага развіцця горада і кіруе сталічным комплексам прамысловасці, транспарту і сувязі.

**Марына НОСАВА, БелаПАН.**

ЭКАНОМІКА

# З Польшчай тавараабарот паднять да 3 мільярдаў долараў

Нельга не заўважыць: паміж Польшчай і Беларуссю абазначылася відавочнае пацяпленне. Вось і днямі нашу краіну наведала дэлегацыя Польшчы на чале з віцэ-спікерам польскага Сейма **Рышардам Тарлецкім**. Ён, дарэчы, наведваў нашу краіну і летась.

Зараз падчас сустрэчы польскай дэлегацыі з намеснікам прэм'ер-міністра Беларусі **Міхаілам Русым** Тарлецкі адзначыў: *«За апошні год многае адбылося, з'явіліся новыя праекты, новыя інвестыцыі, мы атрымліваем пазітыўныя сігналы. Вядома, мы можам зрабіць яшчэ вельмі многае».* А Міхал Русы заявіў: *«Як кіраўнік беларускай часткі сумеснай беларуска-польскай камісіі па эканамічным супрацоўніцтве магу сказаць, што на нейкім этапе мы забуксавалі. Тавараабарот у памеры 3 млрд долараў ці больш – гэта ўзровень, на які мы павінны выходзіць».*

Дарэчы, па выніках 2016 года тавараабарот паміж нашымі краінамі склаў 2 млрд долараў, у першым паўгоддзі 2017-га – 1 млрд 189 млн долараў.

# …з В'етнамам – да 500 мільёнаў долараў

Такія перспектывы супрацоўніцтва пазначылі кіраўнікі Беларусі і В'етнама **Аляксандр Лукашэнка і Чан Дай Куанга**, заявіў пасол В'етнама ў Мінску **Ле Ань**.

Планы, шчыра кажучы, – не жартачкі. Справа ў тым, што паводле вынікаў першага паўгоддзя, удакладніў Ле Ань, тавараабарот хоць і вырас на 29,8% у параўнанні з аналагічным перыядам 2016 года, але ж склаў усяго толькі 74,2 млн долараў. Таму, напэўна, дыпламат і агучыў больш рэальныя планы. *«Калі ўсе міністэрствы і ведамствы дзвюх краін будуць прыкладаць намаганні для рэалізацыі дамоўленасцяў, то лічбы тавараабароту будуць значна большыя. Мы спадзяёмся, што ў 2017 годзе лічба, да якой мы імкнёмся, у 200–250 млн долараў, будзе дасягнута»*, – сказаў пасол.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ФАКТ

# Знешні дзяржаўны доўг Беларусі на 1 жніўня склаў 15,6 мільярда долараў

Ён павялічыўся з пачатку года на 2 мільярды долараў, або на 14,3%, паведамляе Міністэрства фінансаў.

Што характэрна: улады актыўна пазычалі грошы сёлета, у студзені–ліпені 2017 года былі прыцягнуты знешнія дзяржаўныя пазыкі на 2 мільярды 572,5 мільёна долараў ЗША: 1 мільярд 400 мільёнаў долараў – еўрааблігацыі; 600 мільёнаў долараў – Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця; 300,4 мільёна долараў – урад і банкі Расійскай Федэрацыі; 176,6 мільёна долараў – банкі КНР; 92,9 мільёна долараў – МБРР; 2,9 мільёна долараў – ЕБРР і Паўночны інвестыцыйны банк.

Сёлета на выплаты па дзярждоўгу Беларусі трэба накіраваць 3,4 мільярда долараў, у 2018-м – 3,7 мільярда.

ТЭМА ДНЯ

*Як вядома, міністр адукацыі Ігар Карпенка выступіў з прапановай зрабіць гімназіі звычайнымі школамі, а павышаны ўзровень ведаў даваць толькі ў 10-х і 11-х класах. Паводле яго слоў, гэтую ініцыятыву ўхваліў і Аляксандр Лукашэнка. А што думаюць дырэктары гімназій? Як яны ацэньваюць такую перспектыву? На іх погляд, яна слушная ці, наадварот, памылковая? Можа, увогуле гімназій не хапае сучаснай сістэме адукацыі, іх колькасць не адпавядае патрабаванням сённяшняга дня? Дарэчы, з 3155 устаноў сярэдняй адукацыі, якія працуюць у краіне, гімназій налічваецца толькі 210.*

# Якім быць гімназіям?

**Валянціна ШЫРОКАВА, дырэктар гімназіі №1 г.Віцебска, заслужаны настаўнік Беларусі:**



**«Трэба пакінуць тыя гімназіі, якія пацвярджаюць свой статус»**

– Напэўна, перш чым руйнаваць, трэба ўсё вельмі добра ўзважыць. Таму што ўнікальныя школы ствараліся гадамі, напрацоўваўся вопыт, фарміраваўся педкалектыў. І многія гімназіі даказалі права на сваё існаванне, на сваё развіццё.

Мне падаецца, што сёння трэба казаць пра іншае – як зрабіць, каб у нашы школы, гімназіі дзеці ішлі з задавальненнем, каб бацькі ведалі, што ў навучальных установах дзяцей любяць і паважаюць, што дзецям у любой школе дадуць веды, што там працуюць выдатныя выкладчыкі, адказныя за сваю справу.

**– У гімназіях настаўнікі лепшыя, мацнейшыя, чым у звычайных школах? Напрыклад, у вашай гімназіі такі педкалектыў – ого-го! Два кандыдаты навук, 10 настаўнікаў узнагароджаны значкамі «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь», 15 з'яўляюцца стыпендыятамі спецыяльнага фонду прэзідэнта...**

– Калектыў стварае кіраўнік. Дырэктар любой школы падбірае сабе настаўнікаў, гэта велізарная праца – зрабіць з простага настаўніка настаўніка-майстра. Да нас прыходзілі маладыя педагогі, учарашнія выпускнікі ВНУ, а сёння іх вучні – пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд. Сёння гэта паспяховыя і любімыя настаўнікі.

Вельмі важна тое, у якую атмасферу трапіць не толькі вучань, але і настаўнік. Школа павінна даваць веды дзецям, і настаўнік павінен развівацца.

**– Валянціна Трафімаўна, гімназічная адукацыйная праграма значна адрозніваецца ад звычайных школьных?**

– Праграма звычайных школ абмяжоўваецца агульнаадукацыйнымі стандартамі. Праграмы ж гімназій – гэта яшчэ і пашыранае шматпрофільнае дадатковае навучанне. Наша гімназія, напрыклад, займаецца па эксперыментальным вучэбным плане, і мы можам прафілізаваць прадметы раней, ужо з 8-га класа. Мы лічым: чым раней будзе гэтая прафілізацыя, тым лепш. Нашым дзецям мы дазваляем выбіраць, шукаць. Вучань захацеў і пайшоў у адзін профільны клас, праз месяц перадумаў і пайшоў у іншы, праз год змяніў яшчэ адзін профіль, а потым, магчыма, вярнуўся да таго, з чаго пачынаў.

**– І вы гэта дазваляеце?**

– Безумоўна, нават у 11-м класе мы дазваляем мяняць профіль, і ў нас няма ніякіх экзаменаў для пераходу дзіцяці з аднаго профільнага класа ў іншы, дазваляем усе жаданні. Таму ў нас і вынік ёсць: дзеці вучацца з жаданнем!

**– Як думаеце, у міністэрстве прыслухаюцца да вашага меркавання?**

– Напэўна, увесь гэты сырбор разгараўся з-за экзаменаў у 5-я класы, калі дзеці маглі не паступіць у гімназію нават з дзявяткамі. Але тут, напэўна, шмат тэхнічных праблем. Напрыклад, гімназіі набіраюць звычайныя чатыры-пяць першых класаў, а ў пяты, гімназічны, прыём ідзе толькі ў тры. І атрымліваецца, што штучна наганяецца прахадны бал. Ведаючы гэта, дзеці ўвесь чацвёрты клас рыхтуюцца да іспытаў, выдаюцца спецыяльныя зборнікі. Гэта ж якія дадатковыя нагрузкі, а потым, калі не паступіў, – мацнейшы стрэс! Таму чыноўнікі справядліва занепакоіліся, бо гэта найперш здароўе дзяцей. І, дарэчы, былі прапановы ў Міністэрстве адукацыі замяніць іспыты ў гімназію на камп'ютарнае тэсціраванне. Чаму б не паспрабаваць зрабіць? Тады не будзе несправядлівасці.

**– А можа, трэба адкрываць больш гімназій, калі ёсць жадаючыя?**

– Я думаю, трэба пакінуць тыя гімназіі, якія пацвярджаюць свой статус. Гімназія павінна даваць якасныя веды, пераможцаў алімпіяд, удзельнікаў канферэнцый. Спроба рэфармаваць гімназіі ўжо была, але тады хапіла здаровага сэнсу ад гэтай ідэі адмовіцца.

– Не бачу ў прапанове міністра нічога дрэннага. Гэта сапраўды правільны крок, таму што пасля першай ступені адукацыі дзіцяці вельмі складана выбраць нейкі пэўны шлях. А ў 10-м класе дзеці ўжо будуць свядома выбіраць тыя прадметы, якія ў будучым будуць звязаны з іх прафесійнай дзейнасцю. Таму я абсалютна гэта падтрымліваю.

**Наталля БУШНАЯ, дырэктар гімназіі №1 імя Ф.Скарыны г.Мінска, кандыдат педагагічных навук:**

**«Гэта правільны крок»**



**Лілія КІР'ЯК, дэпутат Палаты прадстаўнікоў, былы дырэктар сярэдняй школы №13 г.Гродна:**



**«Думаю, што гэтае пытанне яшчэ будзе вывучацца, прапрацоўвацца...»**

– Мяркую, што Ігар Васільевіч Карпенка агучыў сваё меркаванне не спантанна, для гэтага былі падставы.

Я не працавала дырэктарам гімназіі, узначальвала паспяховую, рэйтынгавую школу, але ведаю, што механізм паступлення ў гімназіі выклікае вельмі шмат нараканняў. Уступныя экзамены, верагодна, трэба скасаваць. Усё ж такі гэта і стрэс для дзіцяці, і гэта не яго выбар, ён яшчэ не разумее, навошта ідзе ў гімназічны клас. Гэта хутчэй амбіцыі бацькоў, іх жаданні.

**– Мне здаецца, гэта нармальнае памкненне – даць свайму дзіцяці добрыя веды…**

– Трэба шукаць нейкае ўзважанае выйсце... Я не прыхільнік радыкальных рашэнняў, лічу, што зламаць сістэму лёгка, але потым складана яе аднавіць. Мы ўжо наламалі дроў, калі адмовіліся ад профільных класаў – добрай, эфектыўнай формы навучання. Дзякуй богу, што вярнуліся да яе...

Сёння вельмі многія гімназіі апраўдваюць сябе. Там працуюць выдатныя педагогі, прафесіяналы, там дзеці атрымліваюць глыбокія веды. Сістэма падрыхтоўкі ў такіх гімназіях напрацоўвалася гадамі і даказала сваю эфектыўнасць. Напрыклад, я не магу ўявіць, што ў маім горадзе Гродна не будзе такіх суперсучасных устаноў сярэдняй адукацыі – дзе і вынік, і падыход да кожнага вучня, як гімназія №1 імя акадэміка Карскага, Гродзенская гарадская гімназія альбо гімназія №10!

**Ганна Ермалінская, дырэктар гімназіі №1 г. Салігорска:**

**«Справа не ў элітарнасці ўстановы, а ў выбары, якога мы не павінны пазбаўляць бацькоў і дзяцей»**

– Я прыхільнік таго, што гімназіі трэба захаваць. Мы ўжо адмаўляліся ад профільнага навучання. І што? Зноў да яго вярнуліся.

**– І якія вашы аргументы?**

– Справа не ў элітарнасці ўстановы, а ў выбары, якога мы не павінны пазбаўляць бацькоў і дзяцей. Калі ёсць бацькі, якія хочуць даць дзецям добрую адукацыю, ёсць дзеці, матываваныя вучыцца, то чаму мы павінны пазбаўляць іх такой магчымасці? Я, напрыклад, наадварот, вярнула б у нашу гімназію другую замежную мову, як гэта было раней.

**– Але пытанне ставіцца так: наколькі гэта выбар дзіцяці?**

– Я працавала і ў звычайных школах, 7 гадоў была начальнікам аддзела адукацыі горада і хачу сказаць, што ў гімназіі ўсё ж такі ідуць дзеці, якія хочуць атрымаць добрыя веды. Хлопчыкі і дзяўчынкі, якія ў будучым сябе бачаць спецыялістамі ў рабочых прафесіях, не ідуць вучыцца ў гімназіі. Напрыклад, у нас вучацца пакаленнямі, сфарміравалася сямейнасць: бацькі скончылі, потым прывялі сваіх дзяцей, або пасля старэйшых настаўнікаў прыходзяць малодшыя дзеці. Таму што ў нас і ўзровень ведаў, і традыцыі, і дысцыплінарныя патрабаванні – тое асяроддзе, якое адрознівае гімназіста ад навучэнцаў сярэдніх школ.

Але я катэгарычна супраць жорсткага паступлення ў гімназію, супраць кантрольных лічбаў прыёму, якія зацвярджаюцца выканкамамі. Кадзіраваныя працы, адзіныя тэксты па краіне, падрыхтоўка на працягу года – у дзяцей стрэс больш, чым на выпускных іспытах. Вось тут трэба нешта мяняць, рабіць форму паступлення больш гнуткай.



**Ірына ПАСЮКЕВІЧ, дырэктар гімназіі №23 г.Мінска:**



**«Будзе канкрэтыка – будзем абмяркоўваць»**

– Вы мяне выбачайце, але ў нас пачатак навучальнага года. Няма калі мне казаць пра тое, чаго няма. Мне працаваць трэба. Будзе дзень, будзе нейкая канкрэтыка – будзем абмяркоўваць.

## P.S. Абыякавасць ці…?

Здавалася б, хто, як не кіраўнікі гімназій, павінны ў першую чаргу абмяркоўваць новую прапанову міністра адукацыі, дыскутаваць, агучваць свой пункт гледжання! Аднак падчас апытання некаторыя кіраўнікі гімназій катэгарычна адмаўляліся ад прадастаўленай магчымасці ўключыцца ў размову. Чаму? Іх гэта не хвалюе, ім гэта не цікава? Ёсць іншыя прычыны?

**Аксана Якубоўская, дырэктар гімназіі №33 Мінска:**

– Ніякіх каментарыяў з гэтай нагоды даваць не буду. Усяго добрага!

**Алена Міронава, дырэктар гімназіі №1 г.Слуцка Мінскай вобласці:**

– Усе каментарыі праз начальніка аддзела адукацыі.

**Марына Ільіна, дырэктар гімназіі №10 г. Мінска:**

– Я не вельмі хачу даваць каментарый вашай газеце, я яе не чытаю. Я адмаўляюся, маю на гэта права. Так і напішыце.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!



Елена МОЛОЧКО

# ОСКОТИНИВАНИЕ...

Изнасилование – самая страшная травма, которая может выпасть на долю человека, будь то женщина или мужчина. Уж лучше бы жестокие побои (хотя на слове «лучше» всё тоже протестует и топорщится – ну нет в насилии одного человека над другим вообще никакого «лучше»).

А если это несовершеннолетняя девочка, подросток? Еще к тому же и дочь насильника?

Порой отказываешься верить написанному. И тем не менее эта трагедия произошла в нашем обществе, с нашими современниками, совсем рядом (в Беларуси, согласитесь, ведь все рядом) – в Ляховичском районе всего неделю назад. Пока мать с другими детьми ушла из дома по делам, отец под сильным воздействием алкоголя напал на своего ребенка. Его девочке еще не исполнилось и шестнадцати, еще даже не цветок – только бутон. Он изнасиловал ее, изорвал, истоптал... Возможно, сейчас даже этого не помнит. С ребенком, конечно, работают психологи. Следственный комитет взял под стражу этого… это существо, возбудил уголовное дело в отношении «отца» – но право носить это имя, по-моему, он потерял в ту же минуту, как притронулся к дочке.

Вот мне совершенно все равно, какое наказание последует за преступлением, что предусматривает закон: 10 или 13 лет заключения дадут этому деградату. Он конченый, в принципе, человек. Осознает? Повинится? Искупит вину? А разве это возможно после того, что он сотворил с собственным ребенком? Как же могло это животное на двух ногах влить в себя столько водки, чтобы исчез родительский инстинкт, разрушились все барьеры совести и собственного достоинства? По большому счету над ним возможен только Божий суд. И он неотвратим. Но теперь важно спасти ребенка.

По скупым сообщениям правоохранительных органов, семья хоть и не стояла на учете как неблагополучная, но «ряд факторов и условий, которые несут опасность для проживания детей», следователи теперь все-таки выявили. То есть можно сказать, что ребенок, пока рос, видел всякое, родитель же не в одночасье вдруг так оскотинился. Скатывался с катушек, наверное, постепенно – скандалил, дебоширил, дрался. Грязи хватало. Но великая мать-природа любой взрослеющей девушке как божественное благословение дарует хоть толику чистоты, в каких бы условиях она ни жила. Пострадавший ребенок из ляховичской семьи, возможно, давно не витал в облаках, был лишен иллюзий о принцах, но в том, что девочка мечтала вырваться из грязи родительских отношений и хотела встретить только свою, только настоящую любовь, я уверена. Так устроены мы, девушки и женщины, и в этой подчас слепой вере в свое счастливое будущее огромная сила спасения человечества.

И вот – травма. Моральная пощечина. Унижение. Эта глубокая темная воронка высасывает из человека соки жизни. Вера в людей попрана. И все потеряло смысл. Поэтому после изнасилования многие жертвы так или иначе ощущают тягу к суициду. Поэтому так важно помочь сейчас 15-летней девочке обрести почву под ногами.

Но есть еще один человек, о котором сейчас никто сильно не вспоминает, но который, уверена, не находит себе места на земле. Еще одна жертва – мать попавшего в беду ребенка, и она же жена насильника. Не приведи, Господи, у этой женщины судьба… Настоящее узилище, душевная тюрьма. Вот как быть, как жить этой бедолаге дальше: посыпать голову пеплом от стыда и горя, стоять перед дочерью на коленях, вымаливая прощение за «отца»? Трудно сказать, какие их с дочерью ждут в будущем отношения. Но мне кажется, они не наладятся: что часть вины так или иначе дочь переложит на мать. Но не простит она всего произошедшего обоим родителям. И получается, что девочка психологически теперь сирота. Хотя, наверное, пока и не осознала полностью этого.

«А счастье было так близко, так возможно…» Но если родитель, давший жизнь ребенку, потом, оскотинившись, силой отбирает у него честь, то Апокалипсис близок. Или даже уже наступил.

ЧУЛІ?

## Моладзь Партыі БНФ плануе выставіць 50 кандыдатаў на мясцовыя выбары

Першым пра свае амбіцыі заявіў кіраўнік маладзёжнай плыні БНФ Юрый Лукашэвіч. Ён плануе вылучацца кандыдатам у дэпутаты па Залінейным раёне горада Барысава.

СІТУАЦЫЯ

## Скаргу Васіля Якавенка спусцілі па інстанцыях

На пачатку жніўня пісьменнік Васіль Якавенка звярнуўся ў гарадскую пракуратуру са скаргай на старшыню Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца. У скарзе ён папрасіў абароны ад «ілжывых выдумак», што ганьбяць яго імя, якія дазволіў сабе на адной з апошніх прэс-канферэнцый Чаргінец падчас публічнага выступлення. Тады Чаргінец канкрэтна сказаў вось што: «Мы супраць твораў таго ж Уладзіміра Арлова і таго ж Васіля Якавенкі. Яны адкрыта ўслаўляюць фашызм і патрабуюць назваць у Мінску вуліцу імем Вільгельма Кубе, гаўляйтара Беларусі ў гады нацысцкай акупацыі».

Васіль Якавенка палічыў гэта абразай і хлуснёй і папрасіў у дачыненні да Мікалая Іванавіча Чаргінца распачаць крымінальную справу па ч.2 арт.188 КК, санкцыя па якой прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу, папраўчых работ, арышту або абмежавання волі тэрмінам да трох гадоў.

Як стала вядома, учора Васіль Якавенка атрымаў адказ. Мы стэлефанаваліся з Васілём Цімафеевічам, ён сказаў:

– Пакуль мяне паставілі ў вядомасць, што галоўнае ўпраўленне ўнутраных спраў Мінгарвыканкама перадало мой ліст у РУУС Ленінскага раёна. Скарга разглядаецца месяц. Але спадзяюся, што так доўга цягнуць усё-такі не будуць. Галоўнае, што працэс пайшоў, пракуратура прыняла маю заяву да разгляду – вось што важна.

**Алена КІРЭЕВА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Мікалай СТАТКЕВІЧ: «Мяне спрабуюць выціснуць з Беларусі…»

*Апазіцыйны палітык Мікалай Статкевіч выйшаў на волю пасля адбывання пяці сутак арышту, якія ён правёў у спецпрыёмніку-размеркавальніку на Акрэсціна, што ў Мінску.*

Статкевіча затрымалі ў мінулую суботу каля дома, у якім ён жыве. Меркавалася, што за кратамі палітык правядзе 20 сутак – згодна з двума судовымі рашэннямі. Па адным Статкевічу прысудзілі пяць сутак, а па другім – пятнаццаць.

Аднак Мікалая Віктаравіча нечакана выпусцілі на волю.

– *Справа ў тым, што акрамя пратакола за падзеі 30 сакавіка супраць мяне ёсць яшчэ адзін пратакол – за акцыю 3 ліпеня,* – расказвае Статкевіч. – *Па ім мне далі яшчэ 15 сутак. Перад вызваленнем я сказаў дзяжурнаму, што гатовы адседзець і гэты тэрмін і не трэба мяне выпускаць, каб потым праз 100 метраў затрымаць ізноў. На што атрымаў адказ: маўляў, другі пратакол на мяне да іх яшчэ не паступаў, таму я магу быць на свабодзе.*

Апошні раз на Акрэсціна Статкевіч быў вясной гэтага года. Зараз ён адзначаае, што ўмовы ўтрымання арыштантаў там значна пагоршыліся:

– *Калі раней ранішняя гарбата была з цукрам, то зараз давалі яе несалодкую. У кашу не кладуць рызынак, як гэта было раней. Сантэхніка ў камерах дабітая да ручкі, не працуе зліў, арыштанты вымушаны хадзіць па патрэбе ў звычайнае вядро. Пасля двухгадовага знаходжання ў крытай турме мяне здзівіць цяжка, але на Акрэсціна гэтым разам я моцна здзівіўся. Відавочна, беларуская сістэма МУС гніе знутры. У бюджэце няма грошай нават на асадкі для супрацоўнікаў спецпрыёмніка. Бо пасля асабістага надгляду старшы лейтэнант Юрый Мікулін забраў маю ўласную асадку, сказаўшы, што "не положено" яе мець у камеры. Ведаючы, што гэта лухта, і паказаўшы правілы ўнутранага распарадку, па якім павінна працаваць установа і ў якім напісана, што арыштант мае права не толькі на асадку, але і на акуляры з гадзіннікам, я ўчыніў скандал. Толькі пасля гэтага Мікулін паабяцаў пакласці яе назад у мае асабістыя рэчы, але толькі пасля вызвалення. Асадку, праўда, вярнулі…*

Ці надоўга Статкевіч на волі ў гэты раз – загадка для яго самога.

– *Уся гэта валтузня вакол мяне сведчыць пра тое, што ўлада баіцца масавых пратэстаў, баіцца сацыяльных публічных выступленняў*, – лічыць ён. – *Мяне часта папракаюць за тое, што я не магу дайсці ні да адной акцыі, якую рыхтую, – мяне ўвесь час саджаюць. Усё гэта пацвярджае тое, што ўлада рэальна баіцца людзей, якія здольны правесці акцыю пратэсту. Увогуле, у мяне такое ўражанне, што беларускія ўлады спрабуюць выціснуць мяне і маю сям'ю з краіны… Я хачу адказаць ініцыятарам цкавання: не дачакаецеся! Я нікуды не збіраюся з'язджаць з Беларусі.*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



ЖИЗНЬ ДРУГИХ

# РЕПЕТИТОР



*Несколько лет назад я брала интервью у известного столичного репетитора Евгения Ливянта – говорили о кризисе учительской профессии. Встречу он назначил в недешевом минском кафе в центре города. Видимо, заметив удивление на моем лице, Евгений Борисович обронил фразу: «Когда я был школьным учителем, иногда заходил сюда со своей будущей женой. На две чашки кофе мне денег хватало, а шоколадку я приносил с собой и втихаря ее распечатывал, так было гораздо дешевле. Это смешно, но какой-то комплекс у меня до сих пор остался, хотя сейчас могу здесь обедать, когда захочу».*

*Так ли легко, как иногда кажется со стороны, зарабатывать на жизнь занятиями с учениками?*

*Репетитор в современной Беларуси – это профессия или подработка? Вмешивается ли государство в эту сферу деятельности?*

*Сколько стоят сегодня услуги репетитора и как найти для своего ребенка настоящего профессионала?*

*Гость рубрики о профессиях – репетитор, руководитель образовательного центра «100 баллов»* ***Евгений ЛИВЯНТ.***

### «Налоговое законодательство очень лояльно к репетиторам»

**– Евгений Борисович, сегодня мы снова обедаем в хорошем минском кафе. Сильно отличается уровень жизни Евгения Ливянта – учителя физики и Евгения Ливянта – репетитора?**

– Если говорить о материальном достатке, то уровень жизни не просто отличается, это – пропасть. Возможно, потому, что активно заниматься репетиторством я начал с середины 1990-х. Тогда главной причиной моего ухода из школы была не бедность – нищета. Мне было 30 лет, был уже некий опыт, профессиональные успехи – сдал экзамены на высшую категорию. Я безумно любил свою работу. В школе на окраине Минска у нас был отличный педколлектив, которому сейчас позавидовала бы любая самая престижная гимназия. Вообще, 1990-е годы многие учителя с точки зрения профессиональной вспоминают как самые лучшие. Мы работали с энтузиазмом, творчески, интересно. Школу не трогали, нам не мешали искать свои решения в педагогике, у администраций школ тоже было гораздо больше свободы. Например, в классе, где я был классным руководителем, мы создали то, что сейчас называется мультипрофилем, и все ученики поступили в разные вузы – мед, иняз, пед, БГУИР, БНТУ, БГУ, физкультурный и т.д. Но при этом учительской зарплаты порой не хватало даже на самое необходимое. Я не мог себе позволить жениться, это было бы безответственно с моей стороны. Как я мог содержать семью при зарплате в 25 долларов?!

**– Поэтому стали подрабатывать?**

– Многие учителя тогда халтурили. Без подработки было не прожить. Единственное табу, которого придерживались, – не брать учеников, у которых ведешь уроки… Но я очень долго не хотел этим заниматься. Во-первых, много сил и времени забирала школа, во-вторых, я относился к репетиторству с некой долей скептицизма. Но потом у меня случился успех.

Я занимался с мальчиком, у которого по математике никогда ничего не получалось, а на моих занятиях получилось. Я подумал: «А почему, собственно, я несерьезно отношусь к репетиторству?» И вот когда в мозгу произошла «перезагрузка», когда пришло понимание, что к этому занятию надо относиться как к профессии, репетиторство стало моей основной работой. Я уже по-другому выкладывался, продумывал систему занятий. Этот поиск продолжается по сей день, выливается в выстроенную систему, в собственные пособия по физике и по математике, которые я постоянно дополняю, корректирую, переписываю.

**– Когда вы вышли из подполья?**

– Подполья никогда не было. В советские времена не было частного бизнеса, зарегистрироваться репетитором было невозможно, предпринимательская деятельность была запрещена и считалась уголовным преступлением, но на репетиторов внимания не обращали. Когда Советского Союза не стало, это уже не было преступлением, но налогообложение в эту область не пришло. И пока отстраивалась система, никто особо репетиторов не щемил. Но мне хотелось работать легально, и я один из первых репетиторов, который попытался зарегистрировать свою деятельность. Это было в 2001 году. На меня тогда смотрели с удивлением: мол, работаешь и работай.

**– Сегодня репетиторы обязаны платить налоги?**

– Обязаны, но к репетиторам налоговое законодательство очень лояльно. Посмотрите, последние 2 года число ИП во всех сферах сокращается, кроме одной – образовательные услуги.

**– Совсем маленькие налоги платите?**

– 34 рубля в месяц, если репетитор зарабатывает не больше 1360 рублей. Если месячный заработок выше, то 5% с оборота. Но также с оборота платят все ИП – и таксисты, и стоматологи, и сантехники... При этом если, например, таксисту нужно вкладывать средства в покупку и содержание машины, в бензин, то какие расходы у репетитора? Электричество, бумага. Но… Например, в Китае учителям разрешено подрабатывать репетиторами прямо на своем рабочем месте, и никаких налогов они не платят. В Польше налогообложение на образовательные услуги тоже отсутствует.

**– Конкуренция в вашей профессии высокая?**

– Преподавателей, которые превратили репетиторство в профессию, основное занятие, которые серьезно и ответственно этим занимаются, действительно много.

**– И всем хватает учеников?**

– Сегодня репетиторов берут с первого класса. И это не шутка. Занимаются буквально по всем предметам, хотя некоторые – физика, математика, иностранные языки, русский – востребованы больше. Старшеклассники чаще обращаются к репетиторам, потому что готовятся к ЦТ, но есть предметы, по которые дополнительные занятия берут ученики средних классов. Сейчас большим успехом пользуются математика, русский и белорусский языки. Когда репетиторы нашего центра предложили провести набор групп по языкам учеников 5–10-га классов, я не верил в успех. А для нас это очень важно, мы же коммерческий проект. Я не ошибся, я – облажался. Спрос оказался очень большим.

**– Если такой спрос, значит, уровень знаний, которые дают средние школы, очень низкий, заведомо недостаточный для продолжения образования?**

– Безусловно, одна из причин развития репетиторства – кризис среднего образования, ситуация в котором только ухудшается. Но есть и другая, не менее важная причина этого явления – желание молодых людей быть конкурентоспособными. И это особенность не только нашей страны, это общемировая тенденция.

Не надо сводить процесс обучения к примитивному – мол, главное куда-то поступить, получить диплом. Хорошее образование, как правило, позволяет в будущем получить интересную и одновременно хорошо оплачиваемую работу. Сегодня за хорошие рабочие места конкуренция ужесточилась. Если хочешь выигрывать – занимайся. Но для этого нужен хороший тренер. И чем лучше школа, тем больше ее учеников занимаются дополнительно с репетиторами, они конкурируют друг с другом уже за партой.

Например, в Южной Корее очень высокий уровень среднего образования, но, несмотря на это, подавляющее большинство школьников занимаются у репетиторов, количество образовательных центров там сумасшедшее. Репетиторы в Южной Корее – долларовые миллионеры. Там даже была предпринята попытка ограничивать работу образовательных центров, потому что ученики засиживались в них за полночь.

### «Самые высокие доходы у репетитора, который ни дня не работал в школе»

**– Вы говорите: нужен хороший тренер. А как найти хорошего? Как понять, что преподаватель даст нужные знания вашему ребенку?**

– Репетитор как супруг. Надо попробовать, позаниматься, посмотреть, подходит он или нет.

В моем понимании (и по такому принципу я подбираю репетиторов в свой центр) хороший учитель-тренер – это самодостаточный человек, который независим в формах и методах работы, в подходах к ученику, независим материально, самостоятелен в мышлении. Когда задумывался центр «100 баллов», я был уверен, что работать в нем будут только опытные репетиторы. А сегодня в нашей команде есть много молодых преподавателей, которым нет и 30 лет. И к ним очередь! Самые высокие доходы в нашем центре у репетитора по математике, которому 29 лет и который ни одного дня не работал в школе. Он ученик моего коллеги-репетитора, надо слышать, как меня благодарят за него родители! Или репетитор по русскому языку– выпускник лицея БГУ, о нем и его друге даже фильм снят «Беларусьфильмом», как они поехали учительствовать в деревню за идею. Ему только 25 лет, а какие он проводит занятия, какие дает знания!

Найти сегодня таких молодых профессионалов в школе сложно: в казарму они работать не пойдут.

**– Нанять репетитора – удовольствие не из дешевых.**

– Оно и не должно быть дешевым. Это наследие советского прошлого, что образование и медицина должны быть бесплатными.

**– Согласна: за все надо платить. Но по карману ли сегодня многим белорусским семьям репетитор? Вы почувствовали, что в стране кризис?**

– А давайте посмотрим за окно: какие машины едут по городу? На парковках мест не хватает, кафе переполнены, свободных столиков нет даже в будние дни. Дома строят и строят, квартирные вопросы решили уже все, многие по нескольку раз… Я не говорю, что у нас в стране все хорошо. Проблем более чем достаточно. Но это черта белорусов – прибедняться. Хотя есть и другая черта – дать своим детям хорошее образование. И есть семьи, которые откладывают на репетиторов заранее, это спланированные расходы.

**– Евгений Борисович, вы сколько стоите? В ваш центр стоит очередь из учеников?**

– Очередь, может быть, и не стоит, но учеников очень много: больше тысячи каждый год. До конца сентября попасть к нашим репетиторам еще можно, позже – практически невозможно.

Цены у нас средние по городу – 19 рублей за двухчасовое занятие в группе. До 2014 года они были выше, но когда в стране случился кризис, мы цены снизили и гарантировали ученикам, что не будем их повышать в течение года. На дворе уже 2017 год, а цены у нас те же.

Есть сегодня в Минске репетиторы и центры и с большими, и с меньшими ценами.

**– Невысокие тарифы позволяют вам выживать? Одна аренда – а «100 баллов» занимает немалые площади – наверное, обходится в немалую копеечку?**

– Когда мы 5 лет назад открылись, вместе с коммунальными платежами один квадратный метр стоил 27 долларов. Сейчас цены на аренду упали почти в три раза и продолжают падать.

**– Случались ли у вас или у ваших коллег ситуации, когда родители были недовольны качеством полученных услуг и требовали деньги обратно? Как вообще решаются подобные конфликты?**

– Финансовая организация в нашем центре построена так, что ученик от нас может уйти в любой момент и никаких санкций за это не будет. Он даже может не объяснять причину. Если внесена предоплата, мы ее возвращаем. И никаких значительных претензий к нашим педагогам у учеников и их родителей не возникало. Хотя нет, недавно одна претензия на нашего лучшего репетитора пришла. К сожалению, мама ребенка ищет причину серьезных, в первую очередь психологических, проблем не в семье, а во внешнем мире.

А вообще, конечно, такие истории случаются. Потребительский экстремизм – он присутствует и в образовании.

### «Я не стал заложником денег»

**– Евгений Борисович, когда вы все-таки женились?**

– В 32 года, когда стал зарабатывать. Это был 1998 год, у меня выходило в месяц 400 долларов, я считал себя очень обеспеченным человеком. А когда мы решили расширять свою жилплощадь и для покупки трехкомнатной квартиры не хватало 5 тысяч долларов – на те времена огромных денег, – я их занял, будучи уверенным, что смогу отдать, потому что заработаю. Отдавал, правда, три года. Работал без отпусков, и за год у меня было 4 выходных дня! Хотя позволять себе такую роскошь, как два выходных дня в неделю, я стал только недавно. В эти дни я не работаю с учениками, но делами своего Центра занимаюсь.

**– Жена работает?**

– Учителем в школе. Преподает математику.

**– А почему к себе не переманите?**

– Она фантастически хороший учитель. Когда я открывал «100 баллов», надеялся, что она наконец-то начнет заниматься только репетиторством. Но ей это неинтересно. Жена обожает работать учителем в школе. Хотя я все время жду, когда уже ей надоест все то, что происходит в системе образования, она психанет и уйдет из школы. Пару раз она была на грани увольнения…

**– Дочери пошли по вашим стопам?**

– Младшая еще учится в школе плюс серьезно занимается пением. В опере «Макбет» в нашем Оперном театре у нее в третьем акте есть даже свои сольные несколько строчек. На премьере я от страха чуть не потерял сознание, хотя перед спектаклем и в каждом антракте пытался снять стресс с помощью известного армянского напитка… Старшая – прирожденный педагог, умение общаться с младшими, учить у нее с детства. Но поступила на факультет международных отношений БГУ. Школу закончила с золотой медалью. ЦТ по русскому языку написала на 100 баллов, а по математике получила 75. Как всегда, сапожник без сапог…

**– Работа отнимает у вас много времени?**

– Много времени проводить с семьей не получается, но нельзя сказать, что работа увела меня из семьи, хотя мои девчонки считают иначе. Что касается нагрузки, она большая: как учебная, преподавательская, так и администраторская, я все же руководитель образовательного центра.

**– Зато многое можете себе позволить…**

– В жизни есть много важных для меня вещей, на которых я хочу концентрироваться и которыми хочу заниматься, например, мне нужно довести свои учебники до уровня самоучителей. И я очень рад тому, что мне не нужно отвлекаться и задумываться о том, могу я что-то купить или нет, что не надо считать каждую копейку… Я не стал заложником денег. Хотя серьезные покупки, конечно, требуют накоплений.

**– Серьезные для вас, это какие?**

– Квартира, машина, например.

**– Сегодня у вас уже есть выходные? В отпуск ездите?**

– Отдыхать люблю в белорусских санаториях, иногда получается выбраться попутешествовать.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## Нямізе – макет мінскага замчышча!

*Актывісты грамадскага аб'яднання "Альтэрнатыва" сабралі 1000 подпісаў пад зваротам, які перадалі ў Міністэрства культуры і Мінгарвыканкам. Мінчане просяць усталяваць на Нямізе плоскасны макет старажытнага мінскага замчышча.*

"Мы хочам звярнуць увагу адказных чыноўнікаў на важнасць папулярызацыі гістарычнай спадчыны Мінска, вяртання гораду яго аблічча, павышэння турыстычнай прывабнасці. Усё гэта цудоўна стасуецца з 950-годдзем Мінска, якое будзе адзначацца на афіцыйным узроўні на пачатку верасня. Перакананы, што распрацаваць такі макет не праблема, бо ёсць адпаведныя праекты археолагаў, якія падчас будаўніцтва другой лініі метро ў 1984–1985 гадах змаглі вызначыць межы замчышча, выгляд брамы, месца знаходжання першай царквы. Увогуле, для гістарычнага цэнтра ўсталяванне макетнай плоскаснай выявы – нармальная практыка, гэта лепей за звычайны стэнд ці стандартную шыльду. Апроч таго, гэта не закрые від на Траецкае прадмесце. У нашым звароце мы не пазначалі пажаданыя характарыстыкі гэтай канструкцыі, выбар матэрыялу і яго маштаб мы пакінулі за чыноўнікамі ў залежнасці ад сродкаў у бюджэце", – каментуе лідар "Альтэрнатывы" Алег Корбан.

Адзначым: сёння месца знаходжання мінскага замчышча пазначана толькі шыльдай на будынку спарткомплексу "Працоўныя рэзервы". Ніякіх іншых інфармацыйных знакаў на гэтым месцы няма.

Сярод тых, хто падтрымаў дадзены калектыўны зварот, ёсць і вядомыя мінчукі, сярод іх гісторык **Ігар Кузняцоў**, пісьменнік **Анатоль Тарас**, гісторык і даследчык **Зміцер Дрозд**, гісторык і пісьменнік **Уладзімір Арлоў**, паэтэса **Валянціна Аксак**, народная артыстка **Зінаіда Бандарэнка**, культуролаг **Вадзім Мажэйка**, музыкант **Лявон Вольскі**, **Паліна Рэспубліка**, а таксама шматлікія грамадскія актывісты.

